БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

5 лістапада 1994 г.

Субота

№ 118(13835)

Кошт у розніцу 40 рублёў

Выдаецца з 1921 года


У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*

## Кур'ер "ЧЗ"



*У Мінску ў Доме літаратара адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 50-гадоваму юбілею факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.*

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**

### "РАКІРОЎКІ" НЕ АДБУДЗЕЦЦА?

*"Прэзідэнтам Беларусі застаецца Аляксандр Лукашэнка і ён па-ранейшаму выконвае свае абавязкі, нягледзячы на тое, што знаходзіцца на лячэнні ў Маскве",— заявіў журналістам спікер Беларускага парламента Мечаслаў Грыб у адказ на пытанне, хто ж сёння кіруе дзяржавай. На думку Старшыні Вярхоўнага Савета, стан здароўя дазваляе Аляксандру Лукашэнку выконваць службовыя абавязкі.*

Мечаслаў Грыб, гаворачы аб гэтым, спаслаўся на заключную частку артыкула 100 Канстытуцыі рэспублікі, дзе сказана:"Прэзідэнт не мае права дэлегаваць якім-небудзь органам ці службовым асобам свае паўнамоцтвы як кіраўніка дзяржавы". У той жа час Канстытуцыя рэспублікі прадугледжвае і іншы сцэнарый развіцця падзей. Згодна з артыкулам 105, у выпадку немагчымасці выканання прэзідэнтам сваіх абавязкаў яго паўнамоцтвы пераходзяць да Старшыні Вярхоўнага Савета. Але, паводле слоў Мечаслава Грыба, на такую "ракіроўку" ўлады патрабуецца санкцыя парламента.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### ПРЭЗІДЭНТ ПРОЙДЗЕ КУРС ЛЯЧЭННЯ Ў СОЧЫ

*Як паведамілі ва ўпраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, атрымаўшы кансультацыі кваліфікаваных медыкаў у Мінску і Маскве, пройдзе курс далейшага лячэння дыскагеннага радыкуліту ў Сочы. Лячэнне прадоўжыцца каля дзесяці дзён.*

Адначасова, падкрэсліваецца ў паведамленні, прэзідэнт будзе вырашаць пытанні ўстанаўлення прамых эканамічных сувязей паміж Беларуссю і Краснадарскім краем. Адбудуцца яго сустрэчы з адміністрацыяй краю, у час якіх будзе весціся размова аб узаемных пастаўках прамысловых тавараў і харчавання.

Сцвярджэнні некаторых сродкаў масавай інфармацыі аб тым, што прэзідэнту быццам бы будзе зроблена аперацыя, пакуль не маюць пад сабой ніякіх падстаў.

**БЕЛІНФАРМ.**

### АСАМБЛЕЯ –ПРА ІНТЭГРАЦЫЮ

*Як паведаміў журналістам на прэс-канферэнцыі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб, цэнтральнае месца ў рабоце пятага пленарнага пасяджэння Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц Садружнасці, якое праходзіла ў Санкт-Пецярбургу, занялі пытанні, што патрабуюць выпрацоўкі парламентамі эфектыўных мер па рэалізацыі мемарандума Савета кіраўнікоў дзяржаў "Асноўныя напрамкі інтэграцыйнага развіцця Садружнасці Незалежных дзяржаў". Спікеры парламентаў Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Кыргызскай Рэспублікі, Малдовы, Расіі і Таджыкістана таксама зацвердзілі каардынацыйны план дзейнасці Міжпарламенцкай асамблеі па прававому забеспячэнню інтэграцыйнага развіцця Садружнасці на 1994—95 гады.*

Пленарныя дэлегацыі, як паведаміў Мечаслаў Грыб, прызналі неабходным правядзенне скаардынаванай палітыкі ў галіне абароны сацыяльных правоў грамадзян. Так, асамблея адобрыла хартыю сацыяльных правоў і гарантый грамадзян незалежных дзяржаў і прыняла ў якасці мадэлі закон "Аб мінімальным спажывецкім бюджэце". Парламентам дзяржаў СНД таксама накіраваны іншыя рэкамендацыйныя заканадаўчыя акты — "Аб бяспецы пры выкарыстанні хімічных рэчываў на вытворчасці", "Аб дзяржаўнай статыстыцы", "Аб асноўных прынцыпах супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД у галіне турызму". Была таксама адобрана работа над першай часткай Грамадзянскага кодэкса, які рэгулюе адзіны эканамічны падыход у вызначэнні прававога становішча гаспадарчых таварыстваў, правоў уласнасці, уніфікуе нормы і правілы камерцыйных здзелак, дагавораў, каштоўных папер.

Спікер беларускага парламента адзначыў павышэнне ролі Міжпарламенцкай асамблеі ў развіцці супрацоўніцтва паміж краінамі СНД. Мечаслаў Грыб таксама даў высокую адзнаку дзейнасці міратворчых груп асамблеі па ўрэгуляванню міжнацыянальных і рэгіянальных канфліктаў.

Аб тым, што Міжпарламенцкай асамблеі надаецца вялікае значэнне не толькі ў нашых краінах, але і за мяжой, сведчыць хоць бы той факт, што на ёй прысутнічалі ў якасці гасцей генеральны сакратар Парламенцкай асамблеі НБСЕ Р.Олівер, віцэ-прэзідэнт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Г.Рэдэман, экс-прэзідэнт Міжпарламенцкага Саюза М.Маршал.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### "ЧЫСТКА" ЛЬГОТ ПАЧАЛАСЯ?

*Раптоўна, як высветлілася, могуць павышацца не толькі цэны. Пенсіянеры, якія 1 лістапада сабраліся выехаць за горад на прыгарадным транспарце, былі пастаўлены перад фактам, што за праезд ім цяпер трэба плаціць.*

Як паведамілі ў Міністэрстве сацыяльнай абароны рэспублікі, Кабінет Міністраў Беларусі прыняў пастанову нумар 144, згодна з якой часткова спыняецца дзеянне падпісанай 29 красавіка гэтага года Вячаславам Кебічам пастановы аб транспартных ільготах. А гэта значыць, што з 1 лістапада 1994 года адменены прадастаўленыя былым Саветам Міністраў рэспублікі да 1 студзеня 1995 года льготы на бясплатны праезд у прыгарадным аўтамабільным і чыгуначным транспарце асобам, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту.

Аднак па-ранейшаму маюць права на бясплатны праезд да месца вучобы і назад вучні школ-інтэрнатаў і ПТВ, якія пражываюць у сельскай мясцовасці. Няма прычын турбавацца пакуль і інвалідам. Іх транспартныя льготы прадугледжаны адпаведным законам. Захаваўся бясплатны праезд для пенсіянераў і ў гарадскім грамадскім транспарце.

### ХТО ЗГАРЭЎ У МАШЫНЕ ЛАЎРЫНОВІЧА?

*Што і казаць, не каралеўская доля спасцігла напярэдадні Дня памяці ахвяру, знойдзеную ў лесе ля вёскі Каралёў Стан Мінскага раёна.*

Ушчэнт згарэў "мерседэс-бэнц"... Тое, што знойдзена ў багажніку, цяжка назваць нават трупам — вуголле чалавечага цела. Аператыўным шляхам устаноўлена, што машына належала Міхаілу Лаўрыновічу, былому генеральнаму дырэктару БелаўтаМАЗа, а цяпер прэзідэнту Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Знік і вадзіцель. Па знойдзеных астанках цяжка вызначыць, каго спасціг такі жудасны лёс. Слова за экспертамі і следствам.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Курсы валют на 4 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6520 | 6550 | 4320 | 4502 |
| "Дукат" | 6650 | 6800 | 4350 | 4600 |
| "Прыор" | 6600 | 6700 | 4400 | 4450 |

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ



# Нібыта дачка і падчарка

*На сялянскіх падвор'ях, узлессі— асенняя бездараж. А, здаецца, яшчэ зусім нядаўна ўсё млела ад засухі, і цярплівыя сяляне, гаротнікі–леснікі, з трывогай пазіраючы на спякотны дыск сонца, думалі: ліха немучае. Канешне, "сюрпрызы" надвор'я ўсё–такі ўнеслі пэўныя карэктывы ў гаспадарчыя планы, у канчатковыя вынікі. Але...*

Але з галоўнай задачай – накарміць насельніцтва рэспублікі, гэта значыць забяспечыць запыты кожнага чалавека на прадукты харчавання – сельская гаспадарка справілася і ў сёлетніх складаных умовах. Зроблены пэўны запас па мяса-малочнай прадукцыі, паведаміў журналістам на прэс-канферэнцыі Уладзімір Гаркун – намеснік старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, удосталь нарыхтавана бульбы, і калі яшчэ ўдасца на працягу года захаваць баланс цэн на асноўныя прадукты харчавання на ўзроўні цэн мяжуючых дзяржаў (каб не дапусціць вывазу), то, маўляў, насельніцтва рэспублікі будзе з хлебам, мясам, агароднінай.

Вось таму, сумленна кажучы, як і чакаў, большасць пытанняў было адрасавана менавіта да міністраў сельскай і лясной гаспадарак.

Бясспрэчна, забяспечыць народ прадуктамі харчавання – задача не з простых, улічваючы тую акалічнасць, што ў гэтай галіне гаспадарання нямала праблем. І самая істотная з іх, як падкрэсліў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Ляонаў, дыспарытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю. З яго слоў можна было зрабіць вывад, што пакуль дзве галіны жывуць у рэспубліцы, як у адной сям'і любімая дачка і падчарка. Вытворцы прамысловых тавараў маюць магчымасць дыктаваць цэны на сваю прадукцыю, прадаюць тавар толькі за папярэднюю аплату, а сяляне, у адрозненне ад іх, вымушаны рэалізоўваць хлеб, агародніну нібыта ў доўг. Інфляцыя з'ядае грошы і ў выніку апошнія ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. У прыватнасці, вёсцы ўжо сёння дзяржава завінавацілa 830 мільярдаў рублёў.

Адным словам, безграшоўе, што навісла над беларускай вёскай, не дае апошняй своечасова набываць неабходныя матэрыяльныя рэсурсы. Незаменныя страты сельгасвытворчасць нясе з-за недахопу тэхнікі, тых жа трактароў. Ёсць і іншыя складаныя моманты.

Канешне, цяжка меркаваць, якія выпрабаванні, няшчасці, няўдачы чакаюць аграпрамысловы комплекс наперадзе. Нікому не дадзена гэта адгадаць. Выйсце з таго цяжкага становішча – эканамічнага, сацыяльнага, у якое загналі сельскую гаспадарку, – не можа быць простым. І яно не будзе простым. І не можа быць хуткім. Але развіваць аграпрамысловы комплекс мы абавязаны ў любым выпадку – іншага шляху проста няма. Вось таму сярод першачарговых задач выхаду галіны з крызісу міністр сельгасхарчу Васіль Ляонаў бачыць у рэфармаванні гаспадарак, прыватызацыі і акцыяніраванні перапрацоўчых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, ліквідацыі дыспарытэту цэн на прадукцыю сельскай гаспадаркі і прамысловасці. У ліку задач і рашэнне кадравай праблемы.

Сутнасць мэт, канешне, зразумелая. Разам з тым у аснове вытворчасці, мяркую, ў гэтым ніхто не сумняваецца, – уменне без страт транспартаваць здабыты людскім потам ураджай, перапрацоўваць, упакоўваць, захоўваць, прадаваць, урэшце. Усе гэтыя і іншыя праблемы не скідваюцца з рахункаў не толькі ў сельскай, але і лясной гаспадарцы. Пад час прэс-канферэнцыі міністр лясной гаспадаркі Валянцін Зорын, кажучы аб бліжэйшых задачах у падначаленай яму галіне, падкрэсліў, што, улічваючы тую акалічнасць, што лясная гаспадарка рэспублікі адчувае пэўныя фінансавыя цяжкасці, утрымліваецца за кошт бюджэтных адлічэнняў, тут у перспектыве плануюць пэўную частку драўніны экспартаваць. Ужо сёння ў гэтым кірунку (у плане забеспячэння галіны неабходнай тэхнікай, абсталяваннем) працуюць многія рэспубліканскія прадпрыемствы. У прыватнасці, падкрэсліў Валянцін Зорын, цесная сувязь наладжана з ВА "Мінскі трактарны завод".

Адным словам, як адчувалася са слоў на прэс-канферэнцыі кіраўнікоў міністэрстваў лясной і сельскай гаспадарак, яны добра разумеюць складанасць становішча, а таму з веданнем справы шукаюць шляхі выхаду галін з эканамічнага крызісу, рашаюць праблемы свайго ўзроўню і кампетэнцыі, імкнуцца прыдаць структурам больш гібкія формы, даць стымулы для самаразвіцця на месцах, здольныя вытрымаць нечаканыя ўдары рынку.

**Валянцін БАРЫСЕВІЧ.**

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

ПАДПІСКА-95

# Хлеб – усяму галава

Як вядома, казка лёгка кажацца, а вось справа... Эканоміка — не казка. Эканоміка — сапраўднасць. А сапраўднасць — вось яна! Вакол нас. Кожны ў той ці іншай ступені мае да яе дачыненне, але ў кожнага сваё разуменне яе. Той жа селянін ці рабочы разумеюць эканоміку канкрэтна: эканоміка — гэта тое, што вырашчана і выраблена сваімі рукамі. Для іншага гэта навука і г.д.

Але як бы хто ні тлумачыў — аддзел эканомікі газеты "Чырвоная змена" адлюстроўваў і будзе апавядаць у новым годзе аб справах канкрэтных у важнай сферы: аб жыцці рабочых, сялянскіх і фермерскіх гаспадарак, прадпрымальнікаў, бізнесменаў. І гутарка будзе весціся не дзеля апраўдання памылак і памылак сур'ёзных, якія былі дапушчаны раней і робяцца цяпер.

Гутарка аб іншым — мы разам з табой, чытач, паспрабуем раздзяліць боль роднай зямлі і зазірнуць за кулісы эканамічных рэформ, дакранёмся, разбяромся ў шматлікіх праблемах прыватызацыі і акцыяніравання прадпрыемстваў, пагаворым пра новыя законы і тых асоб, хто іх парушае.

Лозунг "Хлеб усяму галава!"— надзённы і сёння. Не будзе хлеба, не будзе кахання, не будзе ладу. А каб жыццё працягвалася, каб паўней адлюстроўваліся на старонках газеты яго праявы, не абысціся без тваёй падтрымкі, паважаны чытач. Дык за справу ўжо сёння! А што тычыцца тэматыкі аддзела, то яна разнастайная. Мяркую, што твае допісы, лісты знойдуць шырокі водгук у шматлікай аўдыторыі чытачоў, калі будуць змешчаны пад рубрыкамі "Эканоміка", "Мясцовы час", "Неруш", "Крымінальнае бюро" і г.д.

Чакаю сустрэчы са сваімі вернымі сябрамі ў новым 1995 годзе.

*Кошт падпіскі на паўгоддзе — 6 тысяч рублёў. Індэкс 63129.*

**Валянцін БАРЫСЕВІЧ, рэдактар аддзела эканомікі, сацыяльных праблем і экалогіі.**

ПАТРАБУЕЦЦА ДАПАМОГА

# "Сокалы" супраць лебедзяў

*Цяжка ўстрымацца ад захаплення, калі бачыш белых лебедзяў. Аднак у рыбгасе "Сокалава" Жабінкаўскага раёна гэтыя грацыёзныя птушкі, якія аблюбавалі разам з качкамі мясцовыя сажалкі, выклікаюць зусім не радасныя эмоцыі. Больш таго, занесеныя ў "Чырвоную кнігу" Беларусі птушкі паставілі мясцовае рыбаводства на мяжу выжывання.*

— Калі пачынаецца сезон гадоўлі рыбы, для яе ствараюцца аптымальныя ўмовы, — гаворыць дырэктар рыбгаса Сяргей Кірылюк. — Мы сочым за абсалютнай цішынёй, рэгулярным і каларыйным харчаваннем. І вось у гэты самы дарагі і прадукцыйны час на нашых блакітных "нівах" з'яўляецца многа лебедзяў, якія палохаюць рыбу і з'ядаюць прызначаныя для яе камбікармы. Хутка ім на дапамогу прыходзіць вялікая колькасць маладых вывадкаў. У той час, як гаспадарка церпіць страты, кожны дарослы лебедзь да восені важыць да 12 кілаграмаў. А гэта значыць, што за сезон ён з'ядае не менш чым мяшок канцэнтраваных кармоў. Актыўна скарачаюць рыбны рацыён дзікія качкі, лысухі, нырцы, якіх летам тут вельмі шмат. Як вынік, толькі за адзін сезон рыбгас страчвае каля 20 мільёнаў рублёў, а кожны работнік — амаль палову і без таго мізэрнай зарплаты.

Зразумела, калі рыбаводы былі багацейшыя, а канцэнтраты каштавалі танна, тут мірыліся з гэтым птушыным суседствам. Цяпер жа, абараняючы свае матэрыяльныя інтарэсы, людзі пачалі прыцясняць гэтых птушак. Карацей кажучы, ім аб'яўлена сапраўдная вайна, нягледзячы на "ахоўную грамату". "Няхай гэта "Чырвоная кніга" іх і корміць", — кажуць рыбаводы. І зразумець іх можна.

Міністэрства прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, якое абараняе інтарэсы дзяржавы, не можа з-за адсутнасці сродкаў кампенсаваць гаспадарцы страты і тым самым абараніць птушак. Тым не менш, праблему трэба неяк вырашаць. Прычым, па-гаспадарску: усё падлічыць, прааналізаваць. Можа, ёсць сэнс увогуле адкрыць у гэтым унікальным кутку беларускай прыроды нацыянальны запаведнік ці навуковы цэнтр, дзе б галоўным накірункам стала вывучэнне і захаванне рэдкіх знікаючых птушак?

Як бы там ні было, але любімыя ўсімі птушкі ў небяспецы і маюць патрэбу ў дапамозе, з якой марудзіць нельга. Інакш гэты наш "нацыянальны набытак", які жыве пакуль на сажалках рыбгаса "Сокалава" на правах няшчасных папрашаек і "злосных раскрадальнікаў" чужых кармоў, можа зусім знікнуць. Паколькі відавочна, што ў барацьбе людзей і птушак за жыццёвыя сферы, першыя, напэўна, возьмуць верх. І гаварыць аб тым, што прыгажосць выратуе свет у дадзеным выпадку не прыходзіцца. Трэба ратаваць самую гэтую прыгажосць.

**БЕЛІНФАРМ.**

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




*Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*


## "Уорлднэт"

### ВІЗІТ БЕНАЗІР БХУТА

*Прэм'ер–міністр Пакістана Беназір Бхута прыбыла ў Францыю.*

У цэнтры яе трохдзённых перамоў з Франсуа Мітэранам — супрацоўніцтва Пакістана з Францыяй. У час сустрэчы лідэры дзвюх дзяржаў абмяркуюць таксама становішча ў Босніі і Афганістане.

### У БАЛГАРЫІ – ПЕРАДВЫБАРНЫ МАРАФОН

*За два месяцы да парламенцкіх выбараў у Балгарыі лідзіруючае месца ў краіне займае сацыялістычная партыя.*

## "Суперчэннэл"

Сацыялісты, якія аб'ядналіся ў кааліцыю для перадвыбарнай барацьбы, падпісалі пагадненне з дзвюма іншымі партыямі.

### ЧАРГОВАЯ АХВЯРА – ЖУРНАЛІСТ

*У адну з бальніц Ізраіля быў дастаўлены палесцінскі журналіст, які падарваўся ва ўласным аўтамабілі.*

Палесцінскія фундаменталісты абвінавацілі ў злачынстве Ізраіль, заявіўшы з свайго боку, што санкцыі супраць Ізраіля будуць узмоцнены. Журналіст у бальніцы памёр.

### ПАВЕТРАНАЯ КАТАСТРОФА НАД ІНДЫЯНАЙ

*У амерыканскім штаце Індыяна пацярпеў крушэнне самалёт, на борце якога былі 64 пасажыры і 4 члены экіпажа.*

Паводле паведамленняў паліцыі, загінулі ўсе. Самалёт знаходзіўся ў Чыкага ў час моцнага дажджу. Пасля перамены надвор'я ён узяў курс у Індыяну, а праляцеўшы 48 кіламетраў, пачаў страчваць вышыню.

## "Еўраньюс"

### ПЕРАМІР'Е... ДА НОВЫХ ВЫБАРАЎ?

*Урад Анголы падпісаў пагадненне з нацыянальнымі партыямі аб захаванні грамадзянскага міру.*

Жыхары Анголы скептычна аднесліся да падпісанага пагаднення, якое прымалася яшчэ ў 1991 годзе, але было парушана пасля прэзідэнцкіх выбараў 1992 года. Распачатая тады ў краіне грамадзянская вайна забрала дзесяткі тысяч мірных грамадзян.

## "TV-5"

### АХВЯРА ЗА АХВЯРАЙ

*Днямі ў сталіцы Алжыра было забіта 9 паліцэйскіх.*

За папярэдні тыдзень у краіне загінула 27 жыхароў, сярод іх 6 дзяцей. Яны сталі ахвярамі выбуху, які быў учынены ў Дзень незалежнасці дзяржавы. Каля царквы ў Алжыры былі забіты і 2 медсястры. Паводле некаторых падлікаў, грамадзянская вайна ў Алжыры забрала 10 тысяч жыццяў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

